Аўторак, 25 лістапада 1919 г. Цана 50 ф.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ілюстраваная часопісь, выходзіць у Вільні раз у тыдзень.

Год I. Прэнумэрата каштуе (з дастаўкай да хаты): на адзін год — 24 м., на 6 мес. — 12 м., на 3 мес. — 6 мар. № 21.

## Станіслаў Манюшка.

(1819—1872).

**Сто гадоў з дня нарадзін.**

Яго біографія. Радзіўся 5-га мая 1819 г. у двару Убелі, у Меншчыне. Паходзіў з панскага роду. Бацька Манюшкі быў у наполеонскім войску. Маці ўмела добра йграць на клавікордах і пяяць. Музыкальныя здольнасьці Манюшка паказаў з дзіцячых гадоў. Ужо да васьмёх-гадовага узросту хлопчык клаў на музыку беларускія народныя мотывы, каторыя чуў навокал сябе і вельмі любіў. У 1827 г. сям'я Манюшкаў выехала у Варшаву, і толькі з гэтага часу Стась пачаў вучыцца як мае быць іграньню на фортэп'яно і тэорыі музыкі. Аднак, пабыўшы ў Варшаве усяго 3 гады, Манюшкі мусілі выехаць адсюль у Менск, бліжэй да свайго двара, бо грашавыя справы іх былі дрэнныя. У Менску Стась хадзіў у гімназію, а йграць вучыўся у пана Стэфановіча, каторы сам быў слабы музыка. Бацькі С. Манюшкі часта езьдзілі у Вільню. Паехаўшы аднаго разу з імі, Стась, каторы меў тады 17 гадоў веку, сустрэўся там з Аляксандрай Мільер і ўлюбіўся. Цераз нейкі час яны заручыліся. Потым С. Манюшка паехаў у Бэрлін, каб дайсьці у музыцы поўнай дасканальнасьці. Два гады займаўся ён там у Рунгенгагена і ўжо пісаў музыкальныя песьні на словы нашага вялікага пісьменьніка ў польскай мове — Адама Міцкевіча. У 1839 годзе С. Манюшка прыехаў у Вільню да свае заручонай. 25-га жніўня 1840-га года маладыя пабраліся; шлюб быў у Вільне, на Антокале, ў касьцеле Пана Езуса. Неўзабаве пасьля вясельля наступіла для композытара чарада цяжкіх дзён, поўных нястатку і жыцьцёвага, матэр'яльнага клопату. С. Манюшка мусіў заняць пасаду арганіста пры касьцеле сьв. Яна, даваць прыватные лекцыі. У Вільне Манюшка пражыў 18 гадоў,—увесь час у творчасьці. Музыкальная слава яго пашыралася патроху: композытар зачараваў спачатку Вільню, потым Львоў, свой родны Менск і Варшаву. У 1849 годзе Манюшка даў два сваіх канцэрты ў Пецярбурзе, каторыя publiцы дужа спадабаліся і здабылі слаўнаму музыца шырэйшую славу і знаёмства і прыхільнасьць такіх вялікіх композытараў, яб беларус у расейскай мове, смаленец Глінка, і Даргомыжскі. Захоплены, зачараваны, натхнены С. Манюшка сьмела прабуе тагды свае сілы ў вялікай лірыка-драматычнай опэры. Пясьняр Вольскі прапануець яму сваё лібрэтто „Галькі“ і С. Манюшка творыць „Гальку“ — сваю найлепшую опэру, свой найслаўнейшы музыкальны твор. Першы раз гэтая опэра была пастаўлена у 1847 г. Толькі многа пазьней, у 1858 г., композытару запрапанавалі за яе месца опэрнага дырыжора ў Варшаве, і С. Манюшка пераехаў туды і да самай сьмерці быў опэрным дырыжорам і прафэсарам гармоніі варшаўскай консэрваторыі. І тут цяжка жылося яму з грашавога боку; слаўны композытар мусіў пісаць па заказу музыку для скокаў, цярпліва выпраўляць работы заможных дылетантаў і навет сьпісываць ноты для оркестра, каб толькі якколвек карміцца з сваёю сямейкаю,—доля, якая надта нагадывае долю і сучасных амальня ўсіх беларускіх пісьменнікаў і композытараў. Памёр С. Манюшка ў 4-ты дзень красавіка 1872 г.; у слаўнага песьняра-музыкі разарвалася сэрца. Пахован ён у Варшаве.

Яго музыкальныя творы — найболей опэры, як: „Ідэал“, „Лотэрэя“, „Новы Дон-Кіхот“, „Карманіол“, „Бэтты“, „Цыганы“, „Галька“, „Фліс“, „Графіня Дыана“, „Парыя“, „Страшны двор“ (матэр'ялы з „Бэтты“) „Бэата“, „Сялянка“ і іншыя, з каторых некаторыя пагінулі, бо С. Манюшка мала клапаціўся аб пераховах сваіх композыцый. Апрача таго, ён напісаў 2 мэлёдрамы, колькі

дывэртысмэнтаў, музыку да колькіх драм („Гамлет“, „Віндзорскія кумухны“) многа народных песьняў, музыку да крымскіх сонэтаў А. Міцкевіча, 5 мэссаў, 4 літаніі, 2 рэквіемы і іншае; ён жа напісаў падручнік гармоніі. Лепшы твор „Галька“. Найболей шчыра-беларускіх народных мотываў у „Сялянцы.

*Прыметы* яго творчасьці — зразумеласць і жыцьцёрадаснасьць. С. Манюшка тварыў на простай, усім зразумелай народнай мове. Ен — народны пясьняр. Узгадаваны сярод беларускага народа, на ўлонях беларускай прыроды, ён паказаў у многіх сваіх мучыкальных творах хараство беларускае прыроды і поэзіі. Слухаючы музыку С. Манюшкі, мы слухаем і чуем, як гудзіць беларуская пушча, як зьвініць каса па сеначацi, як гуляюць і пяюць беларускія сяляне, водзяць скокі дзяцюкі і дзяўчаты

Яго беларускасьць. Як высака цанілі лепшыя сучасьнікі творчасьць С. Манюшкі ў яе значаньні для Беларусі, відаць з вядомага верша нашага пісьменніка **XX** ст. Вінцука Дуніна-Марцінкевіча. „На прыезд да места Менска Аполінара Констскага, Уладыслава Сыракомлі і Станіслава Манюшкі“.

Верш пачынаецца так:

Засьвяцілі тры гвездачкі ў пару нам шчасьліву!  
Заляцелі тры сакалы дый на нашу ніву!

З радасьцю вітаючы іх, аўтор кажа:

А трэцьці дудар меж намі ўзрос, ён нам братка.  
Яму Менская зямелька роднанькая матка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Трэцьці дудар як загудзе песенькі радненькі,  
Бяды ды й гора забудзеш, станеш весяленькі!  
А так думкі прыуныўны соладка сьпявае,  
Што за сэрца, бач кляшчамі, дзетачкі, хапае!

С. Манюшка дружыў з В. Марцінкевіч і дарабіў музыку да некалькіх яго твораў.

„Сялянка“ — двохактовая опэра, дзе паны гавораць і пяюць папольску, а мужыкі — пабеларуску. У ёй шмат беларускіх народных песьняў. „Сялянку“ йгралі аматоры ў Менску у 1852, 1853 і 1855 г. г.

Аб другіх музыкальных творах С. Манюшкі на словы В. Марцінкевіча падае ведамасьць яго біограф А. Валіцкі. Гэта дзьве опэрэткі: „Pobór rekrucki“ і „Walka mużyków“. Абедзьве яны гдзесьці загінулі.

Сто гадоў сёлета мінулася з дня нарадзін слаўнага музыкі, а пражыў ён на сьвеце 53 гады. Многа чаго зьмянілася з тэй пары, і беларусы ужо маюць композытараў у сваёй роднай мове, каторая для іх ужо ня ёсьць „простая, хлопская“, а такая панская, якой была для нябожчыка польская. Але памяць аб С. Манюшцы, каторы першы зрабіў толькі для нашай музыкі, жывець і будзе жыць ў удзячных сэрцах беларусаў, затое, што любіў ён гукі той старонкі, дзе радзіўся.

# АДОЗВА

## Беларуская Вайсковая Камісія выпусьціла гэтакую адозву да Беларускага Народа:

„Беларускі Народзе!

Шмат вякоў гібеў Ты ў чужацкай няволі, шмат крыўды і зьдзеку перанёс Ты, многапакутны народ. Чужынцы правілі на тваёй зямлі, а Ты, гаспадар нашай Бацькаўшчыны, быў парабкам.

Чыя нага не таптала Тваіх ніваў, чыя рука не руйнавала Тваіх хат? А ты моўчкі зносіў крыўды, цярпліва чакаў лепшых дзён.

Лепшыя дні пачаліся: наш прыяцель — Начальнік Польскай Рэспублікі — Язэп Пілсудскі—даў згоду прадстаўнiком Тваім, каторыя ў імені Тваім, Беларускі Народзе, працуюць на супольную нашу карысьць, — згоду на формаваньне аружнай сілы—Беларускага Народнага войска.

З вялікай радасьцю пасылаем Вам, браты, аб гэтым вестку.

Мы калісьці былі слаўным народам. Мелі сваю слаўную Дзяржаву — Гаспадарства. Увесь сьвет аб нас ведаў! Нашыя землі былі вольнымі і незалежнымі. Мы былі гасцадарамі на сваёй зямлі.

Волю, свабоду, незалежнасьць і непадзельнасць нашай Бацькаўшчыны - Беларусі мы можам зрабіць сягоньня—аружнай сілай нашых сыноў, нашых братоў, любячых сваю родную зямельку.

Ворагі нашы бальшавікі - маскоўцы і маскоўскія генэралы - Дэнікіны ныціскаюць на нашу зямельку: яны хочуць завясьці у нашым краі свае маскоўскія парадкі.

Бойцеся, браты-беларусы, гэтых парадкаў!

Зьдзек і няволю прынясуць яны нам.

Толькі тады, калі мы самі парупімся аб сваёй долі, толькі тады, калі з аружжам у руках мы абаронім сваю Бацькаўшчыну ад чужынцоў, тады толькі мы можам пабудаваць свае лепшае сьветлае жыцьцё.

Нашыя месты Магілёў, Віцебск і Смаленск да гэтага часу знаходзяцца у чужацкай няволі.

Трэба вызваліць іх!

Трэба выгнаць нашых заклятых ворагаў з нашай зямлі!

Нашая Маці - Беларусь павінна быць Вольнай, Непадзельнай і Незалежнай! Браты Беларусы! Хто можа з вас трымаць стрэльбу ў руках, станавіцеся ў рады нашага Беларускага Народнага Войска для абароны нашай Бацькаўшчыны!

Моладзеж, наша краса і надзея!

Завем цябе у беларускае войска!

Бацькаўшчына наша заве сваіх верных сыноў.

**Беларуская Вайсковая Камісія.**

*Вільня, 9 лістапада 1919 г.*

## Сумна неяк.

**Пасьвячаю В.**

Сумна неяк бывае парою,
А чаму, — не магу я сказаць...
Сэрца поўна тугі, неспакою;
І цiжар, і журба там ляжаць...
Сьвет ня міл!..

Сумна неяк бывае парою,
А чаму,—я хацеў бы сказаць...
У словах выліцца-ж цэла, з душою,
Хоць за думкамі думкі ляцяць,
Няма сіл!..

**Ю. Фарботка.**

**Юры Монвід.**

## Дзіцячыя сьлёзы*).

Сабіраліся на вечарынку—на заручыны панны Стасі. Бацька Пятрука апранаў перад люстэркам чысты каўнерык і злаваў, што калёнік ня хоча папасьць у дзірачку. Пятрук глядзеў са страхам, што яго ня возмуць с сабой. Маці падыйшла, пацалавала яго і сказала:

Мы хутка вернемся. Ты, Пятручок, астанешся з Мар'яннай (слугой). Яна цябе напоіць арбатай... На, маеш цукерак, ня плач...

Лічыка Пятрука зморшчылася, носік пачырванеў і з вачэй скора—скора пасыпаліся, як у вясеньні дзень каплі з даху, сьлёзы.

— Ды што ты будзеш з ім цацкацца,—адклікнуўся бацька. — Астанецца ў хаці! — вось і усё!.. Няўжо-ж цягацца з ім усюды!

Ціхі плач Пятрука перайшоў у голаснае ўсхліпываньне. Спачатку бацька крычаў, маці старалася Пятрука успакоіць ласкавасьцю, а калі ўрэшці ўсё гэта не памагло, пастанавілі ўзяць і яго с сабой.

— Хай ідзе. Як заседзімся, падрэмець сабе недзе на канапе...

Апранулі скора на яго сьвяточную куртачку, загадалі Мар'янне пачысьціць яго боцікі—і пайшлі...

Спачатку ўсё было добра. Дзіця, бачучы ўвакруг сябе толькі старшых, сядзела ціханька, баязьліва. Ножкі яго, не дастаючы да падлогі, баўталіся ў паветры. Праз увесь час вочы яго шукалі толькі панну Стасю і ўся ўвага яго была звернена толькі на яе. Ен бачыў, што яна тут глаўная асоба, што ўсе гэтыя людзі сабраліся тут дзеля яе, бачыў, што адносіны да яе ўсіх сабраўшыхся іншыя, чымсі гасьцей адзін да аднаго, і ўсё гэта цешыла яго і смуціла адначасна. Смуціла, бо ён бачыў, што панна Стася ў гэны вечар была для яго, як чужая, не звартала на яго ніякай увагі, занятая іншымі. Вызывала боль у душы яго, што яна такая вясёлая, радасная, ні разу не глянула на яго, не пагладзіла яго па галоўцы, як калісь, а яму ж гэта сёньня патрэбна больш, чымсі калі-колечы, бо ён такі сумны, нудны, спалоханы. А калі яго дзіцячыя вочы пабачылі, а мозаг неясна сьцяміў, што прычынай шчасьця панны Стасі і гэтага сабраньня—малады с чорнымі вусамі і белай манішкай нейкі незнаёмы, што сядзеў каля яе, глядзеў на яе, гутарыў з ёю, — боль сэрца Пятрука яшчэ сільней зашчыміў. І калі ён, ня зводзячы вачэй з панны Стасі, пабачыў, як незнаёмы пацалаваў яе руку, сэрца сьціснулася ад крыўды і несправядлівасьці людзкой: панна ж Стася—паненка, а ён цалуе!.,

Жаль, боль, дазнаная крыўда грамаздзіліся ў душы Пятрука. Людзкая несправядлівасьць будзіла ў мысьлях палючае пытаньве: чаму так? дзеля чаго?!.

У другім пакоі пачалі іграць на фортэпьяні вальца. Усе рухнуліся да дзьвярэй. Як загыпнотызованы, пасунуўся за іншымі і Пятрук, шукаючы вачыма пану Стасю. Ажно пабачыў яе! Кроў хлынула яму ў галаву, яго дзіцячае сэрца на момэнт перэстала біцца: незнаёмы, абняўшы панну Стасю, прытуліўшыся да яе блізка-крэпка, круціўся з ёю ў тахт ласкаючай нэрвы музыкі...

Пятрук яшчэ ніколі не бачыў танцаў

*) Гл. № 20.

Ен ня ведаў, што поза, „непрызваітая“ ў жыцьці штодзенным, у танцах лічыцца канечне патрэбнай. Яго ўзяла ўнутраная дрыготка. Ажно ня стрымаўся. Кінуўшыся між вярцеўшыяся пары, прыпыханы і папыхаючы іншых, пагнаўся за паннай Стасяй, стараючыся схваціць яе за спадніцу.

Гістэрычны дзіцячы плач запішчэў у паветры:

— Не хачу! не хачу!..

Музыка заціхла; пары затрымаліся, гледзючы з дзівотай на трапечучага нагамі дзіцёнка. Маці падбегла і схаціўшы яго за руку, пацягнула ў другі пакой. А Пятрук, упіраючыся, трапетаў нагамі і няпрытомна крычаў, залiваючыся сьлязамі:

— Не хачу! панна Стася! не хачу, каб вы з імі!..

---

Пасьледзтвы Пятруковай маніфэстацыі былі для яго сумны і з матэр‘яльнага, фізычнага пагляду. Вярнуўшыся дамоў раней, чымсі спадзяваліся, бацькі пакаралі Пятрука, карыстаючыся дзеля гэтага раменнай дзяжкай, спаўняўшай заўсёды дзьве карысныя рольлі: падтрымліваньне на сваім мейсцы ніжняй бацькаўскай опраткі і караньне няслухмянага патомка...

---

Ноч. Ціха. Гадзіннік сьмела, выразна, не так як у дзень, выстуківае свае: так—так! Чуваць бацькаўскі храп. Трызор на сваім сянічку каля дзьвярэй уздрагівае і праз сціснутыя зумы скрозь сон стогне. Зачыненая ў мястовых мурах паляўнічая сабака сніць, мусіць, аб абшары палёў зялёных, вод, заросшых аерам, с плаваючымі на іх дзе-недзе, сукланіўшыся на ўласны лісьць, белымі лілiямі. Мо‘ сьніць сабака аб тым, як вось, прабіраючыся праз густую высокую траву, ледзь-ледзь дышучы, ідзе яна, пачуўшы дражніўшый яе нэрвы пах зьвера... Мо‘ у душы заснуўшай сабакі, зрадзілася туга за жыцьцём пад шырокім небам, бяз сьцен, дахаў, брукаў...

Пятрук ня спаў. Як усе ляглі, ён яшчэ ўсхліпіваў. Душу яго раздзірала адзіноцтва. Ніхто яго ня любіць. Бацька пабіў. Маці, — яна заўсёды бароніць, — цяпер не бараніла. Панна Стася... аб ёй ня мог нават падумаць, так страшэнны жаль цісну́ў яго за горла. Нікога-нікагусенькі, хтобы пажалеў, прытуліў, пацалаваў, абсушыў сьлёзы!.. Вось хіба толькі адзін Трызор...

Пятрук споўз са свайго ложачка і босымі ножкамі падрыптаў да сьпячага сабакі. Так як рабіў ўжо няраз, абняў ручкамі сабаку і прытуліўся да яго.

Сабака спуджаны і нездаволены, што яму надаедаюць, вышчарыў зубы і забурчэў праз сон.

Дзіця, ня прывыкшы да праяў злосьці у пачцівага Трызора, спудзілася і, гледзючы здзіўлёнымі вачыма, адсунулася... Не знайшло жаласьці нават у сабакі. Тады пайшло да свайго бязхвостага драўлянага каня, абняло яго і, седзячы на халоднай падлозе, жалілася:

— Ніхто мяне ня любіць, ніхто: ні мама, ні панна Стася, ні тата, ні Трызор...

І дзіцячыя сьлёзы пасыпаліся на шчацiнiстую грыву безвалосага дрэўлянага каня...

У спальні далей чуваць было храп, сабака сьніў далей свой перапынены сон, а гадзіннік на стале бязупынна выстуківаў свае: так-так!.. так-так!.. так-так!..

# КРОНІКА.

**„БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА“.**

21-га лістапада ў акружным судзе разьбіралі справу рэдактара «Беларускай Думкі» Падгайскага; вінавацілі па 129 арт. Падгайскі засуджан на 2 тыдні арышту, а «Беларуская Думка» зачынена назаўсёды.

---

# Грамадзяне!

На сваей можнасьці складайце ахвяры на інтэрнат-прытулак пры 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі (Вострабрамская, 9). Зьмешчаныя там дзеці бежанцау з прыфрантовай паласы галадуюць, і калеюць... Іх чакае галодная сьмерць.

---

**Ад Рэдакцыі.** З чароднага нумару „Беларускае Жыцьцё“ пачынае выходзіць у Менску. Адрэс Рэдакцыі: Менск, Юраўская вул, № 29, кв. 1.

Рэдактар і выдавец **Францішк Алехновіч.**

Пазволено Военною цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва»